*ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ*

## Як паправіць гадоўлю.

Маю тут наўвеце перадусім гадоўлю скаціны, хоць у роўнай меры гэта самае можна сказаць і аб гадоўлі сьвіней, коняў, авечак і іншай хатняй асвоенай жывёлы.

Пры сягоньняшніх парадках аплачваецца толькі гадаваньне добрай жывёлы. Гэтак справа стаіць з скацінай малочнай, мясной і інш. І гэта зразумела. Менш зразумелым ёсьць пытаньне, скуль гэтыя „добрыя" штукі жывёлы ўзяць. Найпрасьцей-бы было — здавалася-б — такую жывёлу купіць.

Пэўна-ж, гэта дарога можа найпрасьцейшая, ці вярней сказаць—найскарэйшая Але... на куплю добрай штукі якой колечы жывёлы трэба нямала грошаў; а да таго, найлепшая жывёла, трапіўшы ў рукі няўмелага гадаўца, можа сапсавацца ўжо за два гады. Дык трэба пашукаць такіх спосабаў папраўы гадоўлі, якія менш каштавалі-б і былі-б больш трывалкімі. Прасьцей кажучы, трэба ўспомніць галоўныя правілы жывёлагадоўлі і параўняць іх з практыкай сярэдняга нашага земляроба-жывёлагадаўца.

Вот-жа адным з аснаўных правілаў жывёлагадаўлянай насьледнасьці (Erblichkeit — dziedziczność) ёсьць залежнасьць насьледных свомасьцяў ад свомасьцяў бацькаўскіх. Дзеля таго аднак, што ў жывёлагадоўлі адна адзінка мужскога роду прыпадае на колькі дзесяткоў адзінак роду жаноцкага, — значэньне стараны мужской практычна мае значэньне рашаючае. Такім чынам у гадоўлі скаціны аб насьледных свомасьцях рашаюць свомасьці бугая, у гадоўлі коняў — свомасьці жарабца, у гадоўлі сьвіней — свомасьці кнура і г. д.

Залежа гэта ад кірунку гадоўлі: адны свомасьці важны напрыклад для гадоўлі скаціны тыпу мяснога, іншыя — для тыпу працоўнага, яшчэ іншыя — для тыпу малочнага. Нас тут цікавяць свомасьці тыпу апошняга — малочнага. Разгледзім іх:

Кожная гадаўляная штука жывёлы павінна быць здаровай і добра цялесна збудаванай. Толькі гэткая жывёла можа быць прадуктыўнай. Што датыча ўрэшце самай малочнасьці, дык асабліва важна бывае прасачыць, якая была малочнасьць продкаў дадзенага бугая. Памятаць пры гэтым трэба, што пры скрыжаваньні горшых свомасьцяў з боку бугая з лепшымі свомасьцямі з боку самкі — каровы, блізу заўсяды бяруць верх горшыя свомасьці бугая. Дзеля гэтага трэба асабліва зорка сачыць за тым, каб бугай быў з лініі **добра малочнай.**

Ведаючы гэта аснаўное правіла насьледнасьці, трэба ў практыцы кіравацца гэткімі правіламі:

1. Кожны ўласьнік дойнай каровы, калі хоча выгадаваць ад яе добра-малочную карову, павінен загадзя мець на воку добрага, з малочнай лініі паходзячага бугая і ў разе патрэбы зараз-жа даставіць да яго сваю карову.

2. Ніколі ня можна дапускаць каровы да люзам ходзячага па пасьбішчы бугая дзеля таго толькі, што аплата за гэтага бугая меншая, а то і зусім ніякая не бярэцца.

3. Колькі грашоў ці хоць-бы і цэлая нават залатоўка заашчаджаная на выбары горшага бугая ў канцы канцоў заўсяды акажацца стратай, бо ад горшага бугая будзе горшае і патомства.

4. Гадаўляны закон ужо срога карае кожнага, хто карыстаецца ці дае карыстаць бугая незацьверджанага адумысловай гэтак званай ліцэнцыйнай камісіяй.

5. Найпрасьцейшы, найтанейшы і таму кожнаму даступны спосаб папраўы гадоўлі гэта **ўжываньне** толькі **добрых бугаёў,** якія паходзяць ад малочных кароў.

**А. К.**

---

Перахоўвуецца кармовы бурак, як і бульба, у ямах, капцох, а лісьцё заквашваецца ў ямах і ўзімку скормліваецца скацінай.

Кармовая вартасьць бурачанага лісьця ёсьць досыць вялікая, бо адзін кілёграм лісьця мае ў сабе 5—10 грамаў бялка. На дарослую штуку скаціны даецца ў дзень 15—20 кілёграмаў квашанага бурачанага лісьця. Цельным каровам, на два месяцы прад ацяленьнем, квашанай пашы даваць ня можна.

Самыя кармовыя буракі маюць 82 прац. вады, 5 - 9 прац. цукру, а рэшта прыпадае на бялок, крахмал і тук. Буракі можна даваць цялятам ужо ад 4 га месяца іхняга жыцьця, ад 1 го кілёграма пачынаючы і ўверх. Гадавой цялушцы можна ўжо даваць ў дзень 7—9 кілёграмаў, а дойным каровам — 25—40 кілёграмаў някроеных буракоў.

**Інж. М. Д. („Сіль. Госп.").**







# Конскія наровы і іншыя благія прывычкі.

Наравісты конь ня ёсьць хворы: ён толькі набыў благі навык. Найчасьцейшай прычынай наравістасьці ў каня зьяўляецца няўмелае прывучваньне каня да запрагальня, беспатрэбнае біцьцё і пужаньне. Ад гэтага часта і спакойныя коні робяцца наравістымі, калі іх бяз цай-прычыны чалавек карае, або прымушае цягнуць непасільна вялікі цяжар, або ўрэшце калі недапасаваная упраж муляе ў адным ці колькіх мясцох.

Наагул наравістага каня вельмі цяжка зрабіць паслушным і трэба шмат зазнаць клопату, каб абмылку паправіць. Раз на заўсяды трэба запамятаць, што біцьцём, крыкам тут нічагусенькі зрабіць ня можна, наадварот — з жывёлай трэба заўсяды абходзіцца бярэжліва, мякка, ласкава, — тады толькі можна спадзявацца, што ўдасца абмылку направіць.

Акрамя агульнага нарову або ўпартасьці, бываюць у коняў яшчэ іншыя прывычкі, каторыя зьмяншаюць вартасьць каня, а часам робяць ягонаму ўласьніку не малы клопат. Сюды належаць: прыкуска, кусьлівасьць, высуваньне языка, „прымочка", пужлівасьць. Разгледзім, хоць коратка, усё гэта папарадку:

Прыкуска і кусьлівасьць — гэта дзьве розныя дурныя прывычкі, хоць і называюцца неяк падобна. Пры прыкусцы конь грызе ўсякія прылады, снасьць, упраж, а пры кусьлівасьці — стараецца ўкусіць чалавека. Коні з прыкускай, падобна як скаціна хварэючая на лізуху, ліжуць усьцяж муры, жлабы, ясьлі, грызуць дошкі, разгрызаюць упраж і ўсё іншае, што толькі ім пападзецца на зубы. — Каб адвучыць каня ад гэтай брыдкай і шкоднай прывычкі, карыстаюцца людзі дзёгцем, нафтаю, або гэтак званай сьмярдзючай смалой, стручкаватым (чырвоным) перцам і інш., якімі абмазываюцца ясьлі (драбінкі), дошкі, кантары і ўсё іншае, што можа конь грызьці. Хто можа, той абівае ясьлі і жлабы бляхай. Коняў „з прыкускай" ня можна трымаць разам з конямі, якія гэтай прывычкі ня маюць, бо йнакш і гэтыя апошнія, гледзячы на першых, пачынаюць так-жа грызьці ўсё навокал сябе. — Агулам ўзята, каня прызвычаенага да „прыкускі" адвучыць цяжка: яго цягне да гэтага, як — не мяркуючы — п'яніцу да чаркі.

Кусьлівы конь — кусае чалавека. Ад гэтай прывычкі часам удаецца адзвычаіць каня гэткім спосабам: на палачку надзяецца гарачы печаны бурак (ці рэпа). Калі конь кідаецца да чалавека, каб яго ўкусіць, дык такому каню падстаўляецца пад зубы гэты бурак, каторым ён папячэцца. Колькі дзён пасьля гэтага, покі меса прыпёку не загоіцца, конь ня кусаецца, але пасьля прывычка аджывае нанова. Часта аднак здараецца, што калі такая проба з гарачым буракам паўторыцца якіх тры-чатыры разы, дык конь сваю прывычку кусаньня пакідае.

Высуваньне языка ў каня гэта прывычка ня гэтулькі шкодная, колькі прыкрая, бо такі конь становіцца падобным да сабакі ў гарачы дзень. Каб гэту прывычку ў каня выкараніць, некаторыя гаспадары навязваюць на цуглі вузлы, аб якія конь абціраe свой язык і быццам забываецца на сваю прывычку. — Іншыя гаспадары перавязваюць каню язык тоненькай тасемкай: але — увага! каб ня выклікаць запаленьне языка.

„Прымочка" ў каня гэта такая благая прывычка, калі на сьцёбаньне бізуном такі конь адказвае спусканьнем мачы. Калі гэтак робіць конь ці жарабец — дык малая там бяда. Горшая аднак справа з кабылай, каторая ў такім выпадку часта „палівае" і самага фурмана. Рада на гэта адна: лішне ня сьцёбаць каня наагул (у Англіі напр. законам забаронена сьцёбаць каня), а паганяць яго голасам. Тым-жа капрысным кабылам, што гэты брыдкі звычай маюць і бяз бізуна ня слухаюць, прыходзіцца перад кожнай дарогай навязываць падхвосьнік з звычайнай чыстай парцянкі.

Урэшце пужлівасьць ці палахлівасьць каня. Прычынай гэтага найчасьцей зьяўляецца „блізарукасьць" каня: конь кепска бачыць і таму пужаецца. Пазнаць палахлівага каня можна ўжо паводле таго, што вочы ў яго звычайна бываюць круглыя, „баранія" і сядзяць наверсе. На верхніх павеках у гэткіх коняў бывае шмат зморшчкаў, а вушмі яны стала рухаюць („стрыгуць"), нават стоячы ў стайні. А гэта таму, што такі конь хоча вухам злавіць тое, чаго ня можа пабачыць вокам. — Гэты недастатак каня — палахлівасьць прычыненая сьлепаватасьцю — можа сапраўды ўважацца і як хвароба, тымбольш што памагчы такому каню ўжо надта цяжка. Ужываюць, праўда, да гэтага ўсялякіх „акуляраў" і „навочнікаў", якіх заданьнем ёсьць прыкрываць вока, як толькі надарыцца каню нешта „страшное": цягнік, аўта, усялякі стук, сільнае сьвятло і г. д.

**Ю. З.**

**Хто сапраўды хоча, каб „Самапомач" часьцей прыходзіла і больш зьмяшчала ў сабе ўсякіх радаў, той павінен сам акуратна прысылаць складку на часапіс і дапільнаваць, каб гэтак рабілі так-жа суседзі. Найлепшы на гэта спосаб, гэта выпісваньне часапісу „дзесяткамі." Аб варунках такога выпісваньня глядзеце на 2-гой бачыне вокладкі.**

# Як выкарміць скаціну хутка і танна.

На збыт адкормленай скаціны адчыніўся заграніцчны рынак.. Правільнае адкормліваньне скаціны можа нават у сучасных цяжкіх часах прынесьці даход, бо дае магчымасьць выкарыстаць усю пашу, на каторую няма купца, наўперад на адпадкі, што хутка псуюцца. Адкормленая скаціна на рынку плаціцца далёка лепш чым худая, бо мяса яе клустае, сачыстае і смашнае. Гэта паясьняецца наступным параўнаньнем

| | У працэнтах мязіва | туку | вады |
|---|---|---|---|
| Мяса нявыкармленага вала мае | 30.8 | 8.1 | 59.7 |
| Мяса выкармленага вала мае | 35.6 | 22.9 | 39.0 |

З гэтага параўнаньня бачым, што мяса худой скаціны мае 60% вады і ёсьць лыкаватым, а мяса выкармленай жывёлы мае толькі 39% вады і ёсьць смашным і сачыстым. Затое мяса выкармленай жывёлы ёсьць пажыўнейшае, смашнейшае ад мяса худой жывёлы. Гэтыя розьніцы часам бываюць гэтак вялікімі, што найгоршае мяса клустай жывёлы ёсьць лепшым, чым найлепшае мяса жывёлы худой. Справядліва дзеля таго на краёвых і заграніцчных рынках устанаўляецца вялікая розьніца ў цэнах на выкормленую і худую скаціну. Гэта павінны выкарыстаць нашы гаспадары ды брацца да выкормліваньня.

Пры выкормліваньні жывёла мусіць вытварыць як найбольш мяса і туку (клустасьці). Мяса гэта ўсе мускулы і яны прарастаюць тукам. Тук найбольш нарастае пры нырках, але творыцца яго таксама шмат па ўсім целе жывёлы, пад скураю. Прырост на вазе пры выкормліваньні складаецца пераважна з туку і павінен прыбываць у дзень у правільна гадаванай штукі паўтара да двух кілёграмаў. Прырост залежа ў першую чаргу ад здольнасьці жывёлы перамяняць спажыву ў тук, а так-жа і ад пашы.

Ня ўсякая жывёла вытварае з аднолькавае колькасьці пашы тую самую колькасьць туку. Дзеля таго і на выкормліваньне трэба выбіраць:

1. Жывёлу, якая хутка расьце, — добра выкарыстоўвае пашу,
2. Здаровую, бо хворая жывёла марнуе пашу і не адкормліваецца,
3. Жывёлу, якая мае нахіл да таўсьценьня,
4. Жывёлу спакойную, а ня жывую, рухлівую, бо шмат пашы было-б выкарыстана на рух,
5. Жывёлу маладую, якая кончыла свой рост, бо тады добра выкарыстывае пашу і хутка прыбывае на вазе.

Акрамя гэтых прыметаў паадзіночных штук жывёлы, трэба йшчэ ўзяць пад увагу пойлу і пашу. Пры выкормліваньні лепш даваць крыху грэтую ваду і нават нясьцюдзёную пашу, бо тады паша не выкарыстоўваецца на аграваньне астуджанага цела але перамяняе яе на тук.

На выкормліваньне жывёлы можна браць усякую пашу, якая ёсьць у гаспадарцы. З аб'ёмістай пашы трэба даць дарослай жывёле 4 да 5 кілёграмаў сечкі і 5 да 6 кілёграмаў сена. З акопнінаў найлепш прыгодна параная бульба, на дзень 14 да 18 кілёграмаў, або сырыя буракі 15 да 20 кг. Калі даецца менш буракоў і больш сечкі, тады лепш буракі парыць. Хто жыве блізка цукраварні ці бравармі, можа даваць у дзень на дарослую штуку 1 да паўтара клг мэлясы або 30 да 40 клг. брагі.

Акрамя гэтай пашы, вельмі важнай ёсьць абсыпка. Ня можна даваць аднароднай абсыпкі, бо жывёла тады кепска яе выкарыстоўвае. Найлепш мяшаць па роўных часьцях грыс, абсыпку ячменную, кукурузяную, з бобу і з выкі. Абсыпку трэба даваць дзеля таго, каб жывёла лепш зьядала іншыя пашы. Каб абсыпкі не марнаваць, ня можна даваць пры выкормліваньні зразу шмат абсыпкі, а толькі паступова. У першым тыдні, калі жывёла галодная і ёсьць добра аб'ёмістую пашу, абсыпкі даваць ня трэба. Па тыдні даецца поўкілёграма абсыпкі і прыдаецца што 5-ты дзень па поўкілёграма, аж покуль дойдзецца да 5—6 кілёграмаў. Акрамя абсыпкі трэба дадаваць у пашу кухонную соль, на дзень 40 да 60 грам на штуку.

Выкормліваньне дзеліцца звычайна на тры водступы часу, з якіх кожны трывае 1—2 месяцы. Першы водступ (пара) гэта падгатоўка. У гэтым часе даецца жывёле лепш вартасная паша, і жывёла досыць хутка прыбывае на вазе, паўтара да двух клг. ў дзень. Пры канцы першай пары жывёла набярэ на сябе мяса.— Другая пара (водступ) вельмі важная, бо жывёла прыбірае на вазе таксама да 2 клг. у дзень, ня ёсьць ужо так пражорліва і дзеля таго трэба прыдаваць больш абсыпкі і лепшай пашы. Пры канцы гэтай пары прыбывае ўдзень ўжо толькі 1 да паўтара клг., жывёла становіцца пераборлівай. Каб больш ела, трэба прыдаваць пашу, якая дражніць органы траўленьня і павялічвае апэтыт, як: сода, серкавы цьвет, касьцяны попел, тоўчаныя скарупы з яёк ды запашныя расьліны, як: кмін, аніж, фэнікль ды ялавец. Гэтыя дадаткі ня толькі павялічваюць апэтыт, але прычыняюцца да лепшага выкарыстываньня пашы. Пры канцы гэтай пары скаціна ўжо бывае даволі выкармленая.

Дзеля таго што ня ўсякая жывёла аднолькава выкормліваецца, трэба кантраляваць прырост на вазе ці хоць-бы рукамі. Калі ўзяўшы ў жменю скуру

а) пры насадзе хваста, па абедзьвюх старонах,

# Аб дробнатворах у гаспадарцы.

Ёсьць вельмі многа дробнатвораў, карысных і шкодных. Вялікая частка іх так ці гэтак зьвязана з сельскаю гаспадаркаю. Чалавек наш аднак аб нейкіх там дробнатворах чуў надта мала. а часам і нічога. А ўсё гэта ў першую чаргу дзеля таго, што ніхто ня можа дробнатвора пабачыць сваім голым вокам. Вот-жа мы тут аб гэтых дробнатворах крыху і пагутарым.

Дробнатвор найчасьцей ведамы бывае з свайго лацінскага назову: бактэрыя, або бацыл. На колькі размер адзіночнага дробнатвора бывае вельмі і вельмі малым, на гэтулькі здольнасьць іх да хуткага размнажаньня, а гэтым самым і лік іх бывае так вялікі, што значэньне дробнатвораў у ўсесьвеце ёсьць аграмаднае. І так:

Колькі кожнай восені ападае ўсякага лісьця, колькі штогод гіне ўсякай жывіны, колькі ў пушчах глуаіх усякага паламанага парахнеючага дрэва, колькі штогод заворываецца ўсякага аржышча, гною і г д. і г. д. І куды ўсё гэта дзяецца? Бо-ж на полі ці на сенажаці кожную вясну бывае проста як замецена. Куды ўсё гэта дзелася? Адказ просты: ўсё гэта паелі дробнатворы! Але, гэтыя жывыя міліонныя і міліярдныя хмары дробнатвораў усё гэта перавялі праз свой страўны апарат і разлажылі на аснаўныя складовыя часткі. Знача, каб адзін хоць бы год так неяк сталася, што дробнатворы раптам перасталі жыць і дзеяць, дык цэлыя прасторы палёў, лясоў, лугоў сталі-б адным спляшным непраходным сьмецішчам, ці нават могілкамі, што ня можна было-б зрабіць нават аднаго кроку.

Гэтак выглядае заданьне дробнатвораў як аднаго вялікага падчышчальніка ўсіх трупоўі адпадкаў: дробнатворы ператвараюць ўсё гэта ў матэрыял, з якога пасьля будуецца новае жыцьцё: расьліннае і зьвярынае. Гэткая чыннасьць дробнатвораў ёсьць для чалавека карыснай. Карыснай так-жа ёсьць чыннасьць дробнатвораў, якія ператвараюць напрыклад прэснае малако ў малако кваснае і розныя з яго вырабы. Іншыя карысныя дробнатворы працуюць напр. пры вырабе він, дрожджаў, воцту.

Апрача гэтага ёсьць дробнатворы, якіх трэба залічыць да ліку шкодных: гэта дробнатворы — насіцелі ўсякіх хвароб як людзкіх, так зьвярыных і нават расьлінных. Да шкодных так-жа дробнатвораў належаць такія, каторыя псуюць ўсякія гаспадарчыя вырабы, як масла, сала, малако, усякія збажжовыя вырабы і г. д.

Як бачым, дробнатворы, хоць самі і вельмі малыя, то аднак у жыцьці чалавека маюць аграмаднае значэньне. Розныя дробнатворы маюць розныя вымогі што да свайго ўзросту, разьвіцьця і дзейнасьці. Ад выпаўненьня ці невыпаўненьня гэтых вымаганьняў залежа памыснасьць ці непамыснасьць у жыцьці чалавека. Навука многа чаго дасьледавала ў жыцьцёвых свомасьцях дробнатвораў. Не адно з гэтага мае значэньне і ў практычнай гаспадарцы. Пазнаем гэта ў наступных нумарох «Самапомачы».

В. Ш.

---

б) у пахвінах, дзе скура пераходзе з задніх ног у падбрушша,

в) на мастку грудзіны,

г) на жэбрах

вычуваецца мяккіш і сала, дык жывёла ўжо добра выкармлена.

Як нераўнамерна выкормліваецца жывёла, аб гэтым сьведчаць прыклады з практыкі, дзе прырост на вазе быў у паадзінокіх жывёлін

| за дзён | кілё |
|---|---|
| 115 | 141 |
| 122 | 102 |
| 129 | 99 |
| 129 | 210 |
| 129 | 189 |
| 157 | 84 |
| 165 | 108. |

Жывёліна лепш выкармленая мае такжа лепшую вагу. У худых жывёлін бітая вага выносіць 42 да 46 прац. жывой вагі, а ў сільна выкармленых бывае нават 66 прац. Напрыклад: калі худая карова важыць 350 кілё, дык бітая ейная вага будзе толькі 147 да 161 кілёграма (42 да 46 прац,). Затое ў сільна выкармленай цялушкі, жывая вага якой ёсьць 350 кг., бітая вага будзе 231 кг. (66 прац. жывой вагі). Бачым тут, што мяса і клустасьці значна больш, затое менш адпадкаў, чым у жывёлы худой. Дзеля таго за выкармленую скаціну на ўсіх рынках лепш плацяць, бо аж на 10 да 15 грашоў больш на 1 кілёграме жывой вагі.

Найбольш выкармленая скаціна, калі не дастане есьці, выпарожнюе трыбух і кішкі і траціць на вазе. Гэтак бывае звычайна падчас транспорту (перавозу, дастаўкі), калі скаціна ня мае адпаведнага дагляду. Яна тады можа страціць на вазе ад 8 да 10 прац і таму купцы пры куплі адлічаюць прыблізна гэту вагу, каторую скаціна траціць у часе перавозу. Гэты „абрывак" у ялаўкі напрыклад, якая важыць 350 кг., выносіць ад 28 да 35 кг. Калі-б так здарылася, што скаціна прад зважэньнем магла напіцца больш вады, тады гэткі „абрывак" можа быць нават за малы.

Гэтых колькі заўваг падаём нашым гаспадаром, каб добра раздумалі і калі маюць пашу, каб зараз-жа ўзяліся да выкормліваньня скаціны.

Інж. Б. В. „*Сіль. Госп.*"

ПТУШНІЦТВА

## Заводныя але ня хворыя.

Калі прыходзіць месяц сакавік, кожная разумная гаспадыня павінна памятаць аб тым, што курыца з ранейшага гнязда больш карысная ад курыцы з гнязда пазьнейшага. Загранічныя гадаўцы курэй ужо даўна прынялі за правіла, што найлепшыя куры бываюць з тых гнёздаў, якія выводзяцца ў м-цы сакавіку (марцы), а таму такіх курэй у скарочаньні і называюць **марцоўкамі**. Зусім магчыма, што ў нашым беларускім клімаце гэты час крыху пазьнейшы і ня будзе вялікай абмылкі, калі яго агранічым месяцам сакавіком паводле старога стылю (на два тыдні пазьней).

Лішне было-б успамінаць тут, што яйкі празначаныя пад пасадку курыцы павінны быць сьвежыя (не старэйшыя як два тыдні) і паходзіць ад пэўна здаровых курэй; незалежна ад таго ці гэта куры з сваей собскай гаспадаркі, ці яйкі выменяныя ад суседа, ці ўрэшце купленыя **зд лёку**. Аб гэтых апошніх „заводных" яйках, купленых **здалёку**, трэба і сказаць тут, што **на колькі** яны могуць быць карыснымі, **на толькі** яны і небясьпечны, бо могуць прынесьці ў гаспадарку розныя хваробы, ад каторых пасьля можа выгінуць цэлае стада. Паміж многімі іншымі хваробамі занесенымі да нас разам з заводнымі яйкамі, трэба залічыць і **белае развальненьне** ў куранят (інакш ведамае як белая діярэя або пулёроза). Дасталася гэта зараза да нас з Амэрыкі блізу 30 гадоў таму назад. Зародкі діярэі разьвіваюцца з дробнатвора *bacillus Pullorum*, які з яйцавода старой курыцы пераходзіць у яечны жаўток. Калі гэтак заражанае яйко дастанецца ў цяпло (пад курыцу, або ў інкубатар*), дык заразны бацыл вельмі хутка размнажаецца і або зразу, яшчэ ў яйку, заморывае куранё, або даводзіць яго да сьмерці ў працягу першых двух тыдняў самастойнага жыцьця. Гэткія заражаныя діярэяй куранята ў першых ўжо днях свайго жыцьця пасумнеюць, перастаюць есьці, ходзяць з апушчанымі крыльлямі, шукаюць і хаваюцца ў цёплыя куты, жмураць вочы і выкідаюць белы, быццам з крэйдай перамешаны кал. За кожным разам такога натуральнага прачышчаньня часьць клейкага калу астаецца на пушку пад хвосьцікам. З гэтага ў канцы качцоў робіцца адна сплашная непрадышная запора адходнай кішкі і куранё гіне. На 100 хворых на гэткую діярэю куранят, гіне найменш 90, а то й усе 100 штук.

Як-жа ад гэтай хваробы бараніцца?

Наўперад трэба ясна сказаць, што лячэньне гэткага кураняці ніколі не аплачваецца. Тут поўнасьцю апраўдываецца тое правіла, што лягчэй ад хваробы бараніцца, чым яе лячыць. Перш за ўсё ня можна браць на расплод яец з мясцоў, дзе зараза гэта пануе. Калі аднак зараза діярэі ўжо паявілася, дык не астаецца іншай рады, як усіх іх прадаць на зарэз ці самым рэзаць і гадоўлю пачаць нанова. У курніках мусіць быць захована чысьціня. Купляючы яйкі на расплод, трэба мець пэўнасьцю, што яны зусім здаровыя; гэта знача трэба быць пэўным, ці ў гаспадара, у каторага купляем яйкі, ня гінуць куранята ў першыя 2 тыдні па нараджэньні. На ўсякія дасьледаваньні лябораторыйныя, робленыя вэтэрынарамі, могуць сабе пазволіць толькі адумысловыя куравадныя фэрмы, бо гэткія рэчы каштуюць вельмі дорага.

**Ю. З.**

*) інкубатар гэта машына, у якой яйкі штучна аграваюцца і з іх праз 3 тыдні выклюваюцца куранята.

PČALARSTVA

## Jak haspadaryć u pčalniku.

żmiaščajučy hety artykuł zaznačajem, što jon jość aryhinalnaj pracaj aŭtora i ni ŭ jakim razie nia jość pieradrukam ci choć-by pierarobkaj artykułu hetaha-ž aŭtora drukavanaha ŭ inšym miescy. **Red.**

Pčaliny sezon nie kančajecca z pryhataŭleńniem pčalnika da zimoŭli Pravilnaja zimoŭla pčołaŭ i ŭtrymańnie ŭ całaści da viasny heta vielmi važnaja i adkaznaja reč i, možna skazać, sakret budučaha sezonu. Jakaja zimoŭla — takaja i paciecha z pčołaŭ viasnoju. Dziela hetaha pierahledzim tut važniejšyja raboty ŭ pčalniku zimoj, kab naša pčalinaja žyvina viasioła źviniela ŭ budučuju viasnu.

Ab zimoŭli pčołaŭ šmat čytajem u roznych časapisach i knižkach. Treba adnak skazać praŭdu, što ŭ hetaj spravie niama zhody: što čałaviek to rozum. I bortnik sapraŭdy nia viedaje, kamu vieryć. A byvaje i horš: hetkija rady roznych papiarovych pčałaroŭ susim supiarečnyja adny z druhimi. Napryklad: adzin rekamenduje zimoŭlu tolki ŭ zimaviku, druhi ŭ pčalniku na volnym pavietry; adzin kaža, što stol patrebnaja ŭ vulli, kab nie prapuskała ciapła, a druhi, što stol takaja zimoju na't škodnaja i h. d. My tut nia budziem krytykavać usich systemaŭ pčalarskaj haspadarki. Zaznačym tolki, što kožny taki daradčyk, u svaich miascovych varunkach pracy, moh havaryć zusim peŭnuju praŭdu. Kab ža viedać, katoraj rady kali słuchać, treba viedać sposab žyćcia pčoł i my ad hetaha pačniom.

Zimoj žyćciadziejnaść pčoł maleje, adnak nia hinie saŭsim. Pčoły dalej patrabujuć ježy, vady i ciapła da ŭtrymańnia svajho žyćcia i enerhii patrebnaj da budučaha sezonu. Najcikaviejšym źjaviščam z žyćcia pčalinaha kłubka źjaŭlajecca rehulavańnie ciaplini-temperatury. Ŭ našym probnym aškłonym vulli Da-

dant-Blatta my zrabili hetkuju probu: u kłubok pčaliny my ŭstavili termometr, katory pakazvaŭ narmalnuju temperaturu 14°C. Nievialiki šorach mamentalna, pa dźvioch sekundach, padniaŭ temperaturu pčalinaha kłubka da 30°C. Pčoły pačynali hołasna šumieć, žyćciadziejnaść ich usilałasia. Dziela vyraŭnańnia ererhii pčoły pačynajuć jeści bolš miodu i, pierapaŭniajučy svoj žałudak, chvarejuć na niastraŭnaść. Zapas miodu pry hetym chutka spažyvajecca i pčoły pašla hinuć ad hoładu.

Niešta padobnaje zdarajecca i tady, kali pčołam stanie za ściudziena. Vulli robiacca z tonkich daščok. Vot-ža ŭ časie krepkaha marozu ścienki vulla nastyvajuć, para vadzianaja skraplajejecca, ściakaje na dno i zamiarzaje. Temperatura ŭ hetkim vulli raptoŭna abnižajecca. Baroniačysia ad ściužy, pčoły pavialičvajuć svaju žyćciadziejnaść, jaduć bolš miodu. U vulli-ž zavodziacca pleśni i syraść, a z hetym i ŭsie chvaroby drennaj zimoŭli (nozema). Pčoły baroniacca spačatku ad syraści tym, što źlizvajuć rasu z ścienak vulla, dna i ramak. Hetym samym pierapaŭniajuć jany svoj žałudak vadoj, katoraja dla pčały byvaje śmiarotnaj. Chvoraja pčała z pavyšanaj temperaturaj niespakojna biehaje pa vulli, pašla kidajecca ŭ łotku i tam hinie.

Z svaje praktyki nia radžu nikomu sitkavać łotak u vulloch na zimu, bo heta asłablaje siłu pčoł, jakija i zimoju kantralujuć svabodu łotki. I kali jany śćvierdziać, što łotka zakratavana, dyk usimi siłami buduć staracca hety vylet zvolnić. U hetkim niepasilnym zmahańni hinuć časta całyja sotni pčoł, jakija svaimi trupami farmalna zatykajuć usiaki dostup pavietra ŭ vulej. Dziela hetaha radžu tolki ŭ vialikija marazy źmienšyć vylet, a kali paciapleje, dyk nieadkładna pavykidać usie zakładki i zatyčki.

Ad horačy pčoły cierpiać nia mienš, a navat bolš, jak ad ściužy. Pčaliny kłubok pašyrajecca i charakterna šumić. Miod tracić zdolnaść upivać u siabie paru i tamu pčoły adčyniajuć bolš miadovych čarak, miod u katorych ad nadbytku vohkaści (pary) psujecca, kiśnie. A heta viadzie pčalinuju siamju da zaraznaj chvaroby. — Kab uścierahčy pčoł ad hetkaje niebiaśpieki, treba pastaracca, kab jany mieli dostup volnaha pavietra. Kali hetkaje pavietra patrebnaje kožnaj žyvinie, dyk tymbolš jano patrebnaje źbitym u kłubok pčołam. Dziela hetaha nia možna i na zimu na hłucha zakryvać łotak, a pašla kožnaha śniehu treba hetyja łotki staranna, cicha (kab nie biespakoić pčoł) abčyścić, a samyja pčoły raz u dva tydni prasłuchać.

Pavodle taho jak pčoły adklikajucca, možna dahadvacca, jak jany majucca. Narmalny šum padobny da šumu dalokaj raki. Ad łohkaha ŭdaru paŭstaje zvonki šum, jaki zaraz-ža i cišeje.—Lišnie bojki šum śviedčyć, što pčołam abo za horača abo za ściudziena. Piskłivy hołas adzinokich pčołaŭ, byccam daloki płač, śviedčyć, što niama ŭžo ŭ vulli zapasnoha miodu. Cišejšy krychu „płač" śviedčyć, što ŭ vulli niama matki.

Hałodnych pčoł treba nie čakajučy padkarmić. Dziela hetaha vulli, što zimujuć nadvory i haładujuć, treba ŭnieści ŭ zacišnaje i ciaplejšaje (tolki nia ŭ chatu) pamieškańnie i padać pčołam źvierchu padkormu pryhatavanuju z samaha tolki miodu, abo z miodu i cukrovaj mu'ki pa roŭnaj čaści, abo ŭreście samym tolki cukram raźviedzienym vadoj na husty syrop (dźvie šklanki cukru na adnu šklanku vady). Usiakaja padkormka pavinna być ciopłaj.

Treba tak-ža bierahčy pčoły ad usiałakich škodnikaŭ i vorahaŭ, jak myšy i niekatoryja ptuški (dziatły, žołny a navat vierabji), jakija načujuć pad doščačkaj nasuproć łotki i stała niepakojać pčołaŭ abo chapajuć tych, jakija advažacca pakazacca z łotki na dvor.

Biaručy pad uvahu ŭsio vyšejskazanaje prychodzim da nastupnaha vysnaŭku:

1) pčoły sami padtrymlivajuć uzimku narmalnuju ciapliniu. Kali mima taho adnak z niezaležnych ad pčoł pryčyn heta ciaplinia padyjmiecca vyšej abo apuścicca nižej aznačanaj ciaplini, dyk pčoły ad hetaha źjadajuć bolš miodu i pašla chvarejuć na niastraŭnaść, pašla haładujuć i navat hinuć.

2) Pry pavyšanaj ciaplini ŭ vulli pčoły cierpiać ad prahi, źjadajuć bolš miodu i ad hetaha chvarejuć. Pry ciaplini nižejšaj ad narmalnaj u vulli zavodzicca syraść, pleśni, miod kiśnie i pčoły tak-ža chvarejuć.

3) Śviežaje i čystaje pavietra pčale jość kanieśnym i tamu treba dbać, kab u vulli była ventylacyja.

4) Najpolšaj niebiaśpiekaj dla zimujučych pčoł jość niastača zapasu miodu. Tamu hałodnych pčoł treba čymchutčej padkarmlivać.

5) Myšy i pieraličanyja vyšej ptuški źjaŭlajucca vorahami pčoł choć-by ŭžo dziela taho, što niepakojać ich padčas zimovaha supačynku. Kožnaje-ž takoje niepakojeńnie mianiaje ciapliniu ŭ vulli, ad čaho pčoły źjadajuć bolš miodu i pašla haładujuć, chvarejuć i navat hinuć.

**V. Papucevič.**

Małaja Alšanka, 6.I.36.

*Chto choča stała, biez pieravyvu, atrymoŭvać „Samapomač", toj musić zaraz-ža vysłać svaju składku.*

Redaktar inž. A. KLIMOVIČ Vydaviec A. DASIUKIEVIČ
Z upavažnieńnia Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Vilni.
Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1 — 2.

## U čas ablotu pčoł.

Ablot pčoł heta dobry čas padhledzić, jak kožny pień pierazimavaŭ i čaho katoramu z ich treba. A dziela hetaha padčas ablotu pčalar kaniešna musić być na pasiecy, mieć z saboj ałavik, kusok papiery i ŭsio zapisvać. Ablot kožnaha pnia tryvaje 10—20 minut. Tyja pni, što dobra ablatajucca, dahladu nie patrabujuć. Uvaha pčalara pavinna być źvierniena na pni, jakija ablatajuć kiepska: hetkija pni treba zaznačyć. Kali pień zusim nie ablotaŭsia, dyk treba zahlanuć u jaho zaraz-ža pa skončanym ablocie. Kali akažycca, što pčoły admiorli, dyk z siaredniaj ramki treba ŭziać aściarožna źmieniu osypu, zanieści ŭ chatu i abahreć: ni-daŭna admioršyja pčoły pry hetym ažyvajuć i tady treba prystupać da ratavańnia całaha pnia. Kali-ž probnaja źmienia pčoł nie adžyvie i paśla abahravańnia, dyk heta znača, što pčoły prapali i ratunku dla ich užo niama. Ratunak-ža vyhladaje hetak: vulej unosicca ŭ chatu, ahravajecca, skroplivajecca sytaj, pakul nie ačuniaje.

Kali pčoły, zamiest lacieć na ablot, łaziać tolki pavoli pa lotcy, nie latuć i čas ad času vypuskajuć kał, dyk heta znača, što takija pčoły zachvareli na niastraŭnaść abo na nozemu. U hetkim pni treba źmianić zabrudžanyja ramki na čystyja, źmienšyć hniazdo, ciopła ŭkryć, a na viečar dać redkaj syty (2 častki vady na 1 častku cukru) z dadatkam salicyłavaha kvasu.

## Viaśniany korm pčoł.

Viasnoj pčoły hadujuć svoj čer i tamu patrabujuć kormu bahataha na białki: miod, śviežaje karoviaje małako, jaječny białok,—heta tady, kali na dvary niama jšče ćvietavaha pyłku. Sposab padavańnia pčołam miodu viedamy i ab hetym tut havaryć nia budziem. Małako dajecca z sytaj (syropam) u takim vyrachavańni, što na 2 mierki syty dajecca 1 mierka małaka. Davać treba takuju porcyju, kab jaje pčoły za raz źjadali dy kab małako nia śkisła. Małako dobrym byvaje asabliva dla tych vulloŭ, što praz zimu žyvilisia samym tolki cukram.

Jaječny białok dajecca pčołam taksama sałodžany: z syroha białka źbivajecca piena, miašajecca z cukorvym pyłam tak, kab na adnu mierku białka byli dźvie mierki cukru. Atrymoŭvajecca hustavataja kaša, jakoj i kormiacca pčoły.

Š—ek.



*(Dalejšy ciah cenaŭ z 2-hoj bačyny vokładki).*

**Miasnoje, za 1 kilo žyvoj vahi.**

| | |
|---|---|
| **Bydła:** | |
| stadniki (buhaj) . . . | 0.35—0.45 |
| karowy . . . . . . | 0.35—0.50 |
| cialaty . . . . . . | 0.60—0.65 |
| Švini . . . . . . . . . | 0.55—0.70 |

**Za 1 kilo bitaj vahi.**

| | |
|---|---|
| Vałovina, cełyja štuki, . . . . . | 0.75—0.85 |
| ,, zady . . . . . . . . | 0.90—1.00 |
| Vałovina, pierady (košer) . . . . | 0.90—100 |
| Cialacina, . . . . . . . . . . | 0.60—0.70 |
| Švinina . . . . . . . . . . . | 0.90—1.00 |

**Skury syryja.**

| | |
|---|---|
| Skury bydlačyja, za kilo . . . . . . | 0 80 |
| Skury cialačyja, za štuku . . . . | 5.00—6.00 |
| Ščacina (šerść švinskaja) . . . | 8.00—10.00 |

## Ceny na pravincyi

*(Za 100 kilo).*

**U Navahradku:**

| | |
|---|---|
| Žyta . . . . . . . . . . | 10.20—10.30 |
| Avios . . . . . . . . . . | 10.50—11.60 |
| Jačmień . . . . . . . . . | 10 50 - 10.75 |
| Vika jaravaja . . . . . . . | 14.00—16 00 |
| Pialuška . . . . . . . . . | 16.00 - 19 50 |
| Haroch šery . . . . . . . | 12 00—13.00 |
| Siemia lannoje . . . . . . | 29.00—31.00 |

**Miasnoje, za kilo.**

**U Navahradku:**

| | |
|---|---|
| Svini słaninavyja, I sort vahi nad 160 kilo, za kilo . . . | 0.76 |
| Vahi pad 160 kilo ,, . . . | 0.56- 0.70 |

**U Baranavičach:**

| | |
|---|---|
| Buhai . . . . . . . . . . | 0.40—0.42 |
| Karovy i jałaŭki . . . . . . . | 0.40—0.43 |
| Skacina niavykarmlenaja . . . . | 0.28—0 32 |
| Cialaty . . . . . . . . . | 0.40—0 43 |
| Švini słaninovyja . . . . . . | 0.73—0.78 |
| ,, mienšyja . . . . . . . . | 0.67—0.72 |
| Vałovina . . . . . . . . . | 0.54—0.61 |
| Cialacina . . . . . . . . . | 0.50 - 0.60 |

